Наталля Галавач

# На возеры Белым

*Вершы*

Мінск, «Кнігазбор», 2011

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)
Г15

**Галавач, Н.**

Г15 На возеры Белым : вершы / Наталля Галавач. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 108 с.
ISBN 978-985-7007-33-2.

Чулая жаночая душа імгненна адгукаецца на ўсе навакольныя рухі. А душа паэткі — тым больш! Наталлю Галавач хвалюе лёс чалавека і чалавецтва, не пакідае абыякавай прыгажосць роднай зямлі, зачароўвае навакольны свет, апаноўваюць мары аб шчасці і каханні. Раздзяліць гэтыя пачуцці аўтарка запрашае чытачоў.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84 (4Беи)**

**ISBN 978-985-7007-33-2**

# Душа

## Душа

Я з мальбою ў неба глядзела,
Для душы паратунку прасіла...
А яна й ляцець — не ляцела,
Не было ў родненькай сілы.

Хам хаміў, плёткі ткала пляткарка,
Як магла, жорсткасць біла і біла
Па патыліцы і па карку,
Ледзь зусім я душу не згубіла.

А няшчасная поплеч адмылася,
Палахлівыя вочы адкрыла...
За радок душа зачапілася —
Узняла набалелыя крылы.

# Санет паэтам

Ах, далікатныя паэты!
Чужою зайздрасцю сагрэты,
Гарацць, як знічкі, вашы душы...
Закрыць бы вочы, сціснуць вушы!

Ну, далібог, ужо паэты —
Няма ні для каго сакрэту, —
Што пагарджанне — вам падзяка,
Мянушка звеку — небарака!

Паэты, крохкія паэты!
У шуме нуднай сумятні
Згасаюць дзеі, ночы, дні...
А вы (!) складаеце санеты,
А вы пякеліце душу...
Прызнацца, гэтым жа грашу.

Абляцела лістота,
І вецер у вокны грукоча,
І злачынка-зіма лезе ўжо да мяне
на парог.
Толькі сэрца змірыцца не можа,
не мусіць, не хоча
З бегам хвіляў, што шпарка адлічвае Бог.

Ужо колькі сяброў
І ўжо колькі мне проста знаёмых
У нябыт адышлі і пазбеглі пакутаў
жыцця.
І блукаюць яны па шляхах,
мне яшчэ не вядомых,
Ды вартуюць нямы і нязменлівы сэнс
забыцця.

# Восень у садзе

Спадарыла восень у садзе,
Глядзела хмурынкай у вочы.
У гэтым звычайным паглядзе
Быў нейкі пачатак прарочы.
Пачатак пужлівай пяшчоты,
Што лісцем апошнім згарае
Ды шчасця гаркавага ноты
На згубу з сабой забірае.
А восень крычала шчымлівым
Птушыным, бязрадасным лёсам...
Чаму на душы так тужліва?
Што хочуць сказаць мне нябёсы?

# *Мастаку*

Спадзяюся на стрэчу.
І думкі на памяць збіраю...
Ты збалелай душой і дыханнем мяне
наталі.
Можа, дзе-небудзь там,
На апошнім сваім небакраі,
Ты прытрызніш мяне,
Ты пазнаеш сваю Наталі.

І ты прымеш мяне
Без прыдзірак і лішняга тлуму,
На адценнях лістоты пачнеш свае песні
спяваць.
Толькі тут, на зямлі,
Не пазбыцца здранцвелага суму.
Толькі тут, на зямлі,
Нам замнога яшчэ гараваць.

# Зімовы матыў

*Сыну Максіму*

Калі твае скроні пароша кране
І вецер засне на марозе —
Успомні мяне, ты успомні мяне
Апошнім лістком пры дарозе.

Што крыху трымаўся на стылым вятру,
Бурштынам трымцеў на світанні,
А сёння — у хмурную гэту пару —
Пад снегам знайшоў прывітанне.

Калі твае скроні пароша кране
І вецер засне на марозе —
Успомні мяне, ты успомні мяне
Апошнім лістком пры дарозе.

# Восень

Вось і зноўку восень завітала,
А тады вясна, вясна была.
Нам на крыўды часу не хапала,
І у садзе яблыня цвіла.
Беглі дні — і скруха, і турботы
Праглынулі свет найлепшых дзён...
Круціць вецер лісця пазалоту,
З рук ірве старэнькі парасон.

# *Забытая мелодыя з юнацтва*

Яна узнікла быццам бы знянацку
Аднойчы сінім ранкам лістапада...
Забытая мелодыя з юнацтва
Кружыла лісцем восеньскага саду.

Яе матыў — святое азарэнне,
Засмаглым вуснам — радасная споведзь,
Шляхоў маіх адвечнае гарэнне,
Жыцця майго сапраўдная аповесць.

Мне з тых гадоў шчаслівых,
бесклапотных
Парой зусім не хочацца вяртацца.
Чаму ж прыходзіць рэдка і самотна
Забытая мелодыя з юнацтва?..

*Міхалу Клеафасу*
*Агінскаму*

Я іду. І далонямі хвілі кранаю,
І імгненні стагоддзяў дыханнем
і сэрцам лаўлю.
Я тугу Вашу, граф,
Я і Вас, Ваша светласць, кахаю
І сцяжынкі пад дубам,
І неба над імі люблю.
Што жыццё?
Яно лісцем зжаўцелым станцуе,
І змяёю нашэпча, і лаянкай кіне у твар.
Можа ж, Вам, мілы граф,
так няблага яшчэ пашанцуе,
На пакутных шляхах ты скарбонкі дабра
уладар.
Дык давай на жаданнях я, граф, пагадаю,
На дубовых галінках і скронях ссівелых
тваіх...
Твая шчасная птушка без пары у небе
лятае,
А я бачу пад сонцам лунаючых вас удваіх.

Закружыла зіма завірухай,
Халадамі абшар абняла.
Пазалеташняй стылаю скрухай
На збалелае сэрца лягла.
Толькі я так люблю тыя сцюжы,
Што катрынка-зіма завяла,
Быццам ведаю — лечацца душы
Чысцінёю снягоў і святла.

# Натхненне

Заўжды самотныя вочы,
Чаротавы сілуэт,
Мае бяссонныя ночы —
Вось звонку яго партрэт.
Гукну — паглядзіць, не бачыць,
Як быццам прыйшло здалёк...
Абернецца мне ўдачай
І знікне, як матылёк.

# Мроя

Я так хацела, так хацела
Таго ўсяго, чаго не мела:
Дыван, шыкоўныя шпалеры,
Яшчэ філёнчатыя дзверы,
Машыну, дачу, лазню, сад.
У садзе белы снегапад...

І вось усё гэта прыдбала,
А смаку шчасця не спазнала.
Як не было яго — й няма,
І намаганні ўсе дарма.

# Мацеркам

Душа мая стамілася ад болю,
Ад болю, ад пакут і ад тугі.
Ды трэба жыць, і жыць як мага болей,
Мне кожны дзень нясцерпна дарагі.

Кругаварот жыцця грукоча млынам,
А побач верхаводзіць чорны птах.
О мацеркі! Маліцеся за сынаў,
Каб не ўтравеў іх зарунелы шлях.

Маліцеся, пакуль шчэ прагнуць хлеба,
Пакуль набатам не крычаць званы.
Вы ж бачыце — злятаюць зоркі з неба...
Не зоркі гэта — нашыя сыны.

Абступілі і сцены, і дзверы,
І аловак нагрэўся — пішы!
Ды не можа ўзысці на паперы,
Што замкнулася ў скрушнай душы.

*Алесь Бабаед*

1

Ноччу шорахі пільныя дбайна
Спавіваюць смугою душу.
І бяссоння прагорклага тайна
Мне рыхтуе аловак. Пішу.

Ды ні слоў, ні радкоў, ні натхнення...
Пэўна, хтосьці рупліва кляне.
У старэнькім, збяднелым адзенні
Адзінота гасцюе ў мяне.

2

Беспрытульнасць пустога пакоя,
Цішыня, цішыня, цішыня...
Ні стамлення няма, ні спакою
Ў незваротнасці ночы і дня.

Гуртам цені па сценах піруюць,
Круцяць жорнамі смутак і жах,
Звар'яцелым паглядам чаруюць,
Гаркатой ахінаючы шлях.

Раптам позірк нябеснага майстра
Неспадзеўкі мяне напужаў.
...А гадзіннік рукой капельмайстра
Час расплаты маёй набліжаў.

# Вочы

Яны са мной — агеньчык успамінаў...
Я думкамі кранаю іх тугу.
Сухі букецік белага язміну
І позірк твой расстайны берагу.

Яны са мной — самоты ціхай вочы,
І чым далей, тым лашчацца бліжэй,
Яны са мной — і раніцай, і ноччу,
Хоць жыць усё становіцца цяжэй.

Мізэрна мала трэба чалавеку,
Рэцэпт адзін ад болю і тугі —
Ва ўсе часы, адвеку і давеку —
Каб толькі позірк побач дарагі.

# Сын

Я раствараюся ў табе.
Расцякаюся па тваіх жылах.
А думкі твае далёка
Ляцяць у вышыні...
Народжаны мною,
І з вуснаў маіх
Шапталі нябёсы свае таямніцы —
Ты іх не чуў.
І не чуеш сёння,
Надзеяй жыву,
Што пачуеш потым.

## Таполяў заснежаны пух

Я гляджу на шашу,
што вядзе у дзяцінства,
Дзе таполяў заснежаны кружыцца пух,
А «хлеб заячы» быў самым смачным
гасцінцам,
Што прыносіў мне бацька са злых
завірух.

Тут сплываюць гады, як вадзіца у рэчцы,
І сыходзяць вякі у нябыт-забыццё.
Мітусні чалавечай, падману і спрэчак
Не каштуе, павер, усё наша жыццё.

Час бяжыць па дарозе, заснежанай
пухам,
Ён адзіны ніколі не верне назад.
Над таполямі кружыць, звініць завіруха,
Усё сыпле і сыпле сівы снегапад.

Я гляджу на шашу,
мне па ёй не вярнуцца.
І ніхто і ніколі вярнуцца не змог.
Толькі думкамі мушу яшчэ азірнуцца,
І чаму? — Пэўна, ведае толькі сам Бог.

*Светлай памяці сябра,*
*аднакласніка, ваеннага*
*афіцэра Уладзіміра*
*Сакалоўскага*

Ты побач жыў, заўжды бываў мне рады —
Пяшчотны дружа ў радасці й журбе,
Спагадлівы, аддалены ад здрады,
Часцей, напэўна, здраджвалі табе.

У снах маіх бязладных, ап’яняльных
Глядзіш з палёгкай, моўчкі, бездакорна...
Заўчасным пахам свечак памінальных
Вярэдзіш памяць — ціхі і пакорны.

Заплача неба жоравам тужлівым,
Журбой завые вецер за гарой...
Даруй усім — здаровы мы і жывы,
А ты ў зямельцы-матухне сырой.

Засыпае восень лісцем,
Засыпае стары сад.
Я шукаю з яго выйсця,
Я вяртаюся назад.

Толькі ўсё тут незнаёма,
Дрэвы голыя стаяць.
Не знайсці шляхі дадому,
Буду век тут векаваць.

## У альбом М. Шагалу

Адпусціце мяне, вершы,
У прасторы-далячыні,
Дзе мой любы самы першы
Свае дзверы мне адчыніць.
Да яго я птушкай веснай
Праз туман, праз аблачыны,
Стану ціхай думкай-песняй,
Ці пазнае ён дзяўчыну?
Хай сальюцца вусны скрухай —
Здрыганецца подых свету!
Маю песню слухай, слухай
Ад праклёнаў, ад навету.
Уначы анёлам белым
Зберагу ад страху-спуду,
Над цнатлівасцю нясмела
Буду лётаць, буду, буду.
Адпусціце мяне, вершы...

Заціш увосень, як акварэлі
Лёгкай празрыстасці плён.
Ці не занадта мы пастарэлі,
Горкага лёсу праклён?

Ці не замнога люду зняволіў?
Замураваў, запужаў?
«Мне надакучыла, прагну я волі», —
Просіць шчымліва іржа.

# *У народным стылі*

Фарбамі восені пазалачоныя,
Стынеце ночкай марознай.
Ой вы, прыгожыя, ой, заручоныя
З ветрам пякучым, бярозы.

З ім, беларусыя, з ім, танкаствольныя,
Ночкі усе зімаваці.
Мілыя сэрцу хвілiначкі вольныя
Будзеце успамінаці.

# *Восені*

Распаліла кастрычча восень,
Растрывожыла мне душу.
Ні аб чым ты мяне не просіш,
Гэта я цябе папрашу.

Можа б, ты яшчэ пачакала,
Не скідала б лістоту ўраз,
Ну, а я б яшчэ пакахала
Моцна так, як у першы раз.

Серабро тваё аплятае
Цёмныя валасы мае,
Я й прыгожая, й маладая,
І душа яшчэ так пяе.

Не спяшалася б, жаўтаброўка,
Прыбліжаць зладзейку-зіму.
Не сястра ты мне, не сяброўка,
Толькі дай цябе абдыму.

# Вясна

Як нудна мы жывём,
Душой душу не грэем.
Даўгі не аддаём
Ды з кожным днём старэем.

А птушак карагод
У вытанчаных трэлях —
Ужо каторы год
У садзе акварэлі.

І як тут зразумець,
Дзе існасць, дзе малюнкі?
Вішнёвая замець,
Вясновыя карункі.

Шчабеча дзіўны шпак,
Нябёсы спавядае.
А разам з ім мастак
Над мітуснёй лятае.

# Усе мы прараслі з зямлі

## Вёска

Вакол снягі. І хаткі чарадою
Замшэлыя віднеюцца здалёк.
А мне б убачыць маму маладою,
А мне ў маленства толькі б на дзянёк.

Ды ўсё прайшло. Няма каму смяяцца,
І звонкіх песень болей не чуваць.
Снягі наўкол. А зваць — дык не дазвацца.
Ды і няма каго ўжо тут зваць.

# Кроўнае

Ачнуцца ад доўгае стомы палі,
Заморыцца снег-завіруха.
На досвітку пройдзе вясна па зямлі —
І згіне зімовая скруха.

Заўецца ласкавы вясновы прамень,
І ўраз прападае маркота.
Гарыць зараніцай разбуджаны дзень,
Чаруе адценнем лістота.

І, як у дзяцінстве, павее цяплом
Ад ветрыку лёгкага спеваў.
Здаволяцца нівы пяшчотным дажджом,
Аздобяцца руні пасеваў.

Блакітных вышынь нада мной чысціня —
Душа ажывае нанова.
Якая ж у вуснах тваіх глыбіня —
Матуля. Айчына. І мова.

Ты навучы мяне маліцца
За Беларусь, за мілы край.
Каб мне было дзе прытуліцца
Ляці, мальба, за небакрай.

Каб не ўміралі нашы дзеці
Ад Чорнай Былі, ад віна,
Каб Бог не кінуў, а прыкмеціў:
«Дык вось, — маўляў сабе, — яна...»

Каб асвяціў ён людзям сонцам
Шляхі ў гады і у вякі.
Я так люблю яе бясконца
І сцежкі ўсе, і бальшакі!

# Русілкі

Прыеду ў вёску,
Падыду да хаты,
Дзе шмат гадоў прабегла неўпрыкмет.
Старэнькі плот замшэлы і гарбаты
Ў дзяцінства мне выпісвае білет.
Стамлёны дзень спякотаю і пылам
Адпачывае тут у цішыні.
Дзе дакрануўся дуб да небасхілу,
Лунае бусел — сімвал дабрыні.
Красуе жыта фарбамі вясёлкі,
Валошак свецяць сінія агні,
І плача горка, плача перапёлка
Па згубленай, гаючай чысціні.
За агародам хісткае балота,
Тут журацца увосень жураўлі.
І разумею, як жа неахвотна
Ляцяць яны ад роднае зямлі.
Ад той вярбы, што гушкала ў дзяцінстве,
Застаўся толькі кволы успамін.
Матулю ўбачу у садку квяцістым —
І стомленасць рассееццца, як дым.
Тут мне прад тымі трэба павініцца,
Каму я веру і каго люблю...
Далоні маці дыхаюць дзяцінствам,
Я перад імі галаву схілю.

# Продкам

Зноў з фотаздымкаў продкаў вочы
Глядзяць трывожна у душу.
Самотны позірк іх прарочы
Міжвольна ў сэрцы я нашу.

...Сядзіць дзяўчына за работай
І тчэ раўнюсенька радок.
А за спіною кат употай
Ужо нацэліў свой курок.

Раз ёсць што ткаць — дык значыць, вораг,
Раз ёсць што есці — «кулакі»,
І горкім плачам плача гора —
Асірацелі хлапчукі.

І немаўлят з бацькоўскай хаты,
Дзядоў жытла — у нейкі хлеў,
Ў хляве стаялі тым цяляты...
Каб той вар'ят ні піў, ні еў!

З якой бяды, з якой накукі
Хто лёс такі наканаваў?
За што жабрацтва, слёзы, мукі —
Хто б мне на гэта адказаў?

...Зноў з фотаздымкаў продкаў вочы
Глядзяць трывожна у душу.
Самотны позірк іх прарочы
Міжвольна ў сэрцы я нашу.

Пачатак наш — ад роднае зямлі,
Ад дзьмухаўца, што песціцца пад сонцам,
Руплівых рук, спазнаўшых мазалі,
І цеплыні матулінай бясконцай.

Пачатак наш — ад бацькавай раллі,
Ад поля, што улетку пахне хлебам,
Ад вёскі той, дзе мы з табой раслі,
І ад хмурынкі між зямлёй і небам.

Пачатак і ад скрушных курганоў,
Што стогнуць пад сцюдзёнымі вятрамі,
З духмяных траў, перадсвітальных сноў,
Са скроняў, прыцярушаных снягамі.

Ад велічных, задумлівых дубоў —
Вартаўнікоў празорлівых стагоддзяў,
Няпомслівых, разважлівых дзядоў,
Зніштожаных у трыццаць сёмым годзе.

Пачатак наш — ад роднае зямлі,
Многапакутнай, пужанай адвеку.
Куды б шляхі зямныя ні вялі —
Ўсё ж на зямлі, спагадлівай зямлі
Цярпець, і жыць, і верыць чалавеку.

Усе мы прараслі з зямлі,
Як колас жытні,
Як ключы крыніцы,
Што б’юць штодня,
Бягуць ад веку ў век.
Калі б мог сёння кожны чалавек
Адведаць той крынічнае вадзіцы
І усвядоміць думку спакваля,
Што перад Богам трэба павініцца, —
Якая б стала шчасная Зямля!

# Некалькі вечароў з Шапэнам

Не была ніколі
Ў Жалязовай Волі,
Над ракой Утратай
Не стаяла я.
Ды у снах, бывае,
Я туды лятаю —
І тады са мною
Музыка мая.

Вось і зноўку вечар
Абдымае плечы,
І кладзе на плечы
Смутак і журбу.
Толькі, чым з журбою
Лепей мне з табою,
Мне з табой, узнёслым,
Лепей удвая.

Хоць і плачуць ноты
Сумам адзіноты,

Хоць і рве адчаем
Песня салаўя —
Як каралі гукі,
І як прывід рукі.
...Слухаю Шапэна
Кожны вечар я.

# Мазурка

Як дзіўна музыка гучала,
Як зала млела без цяпла.
А панна нешта Вам шаптала —
У танцы лебедзем плыла.

Яна вяртляваю сцяжынкай
Бяжыць нястрымна праз гады —
Светлавалосая дзяўчынка
З вачыма колеру бяды.

Той бляск вачэй, як сотня «фортэ»,
Як поўні вечная журба.
...Шапэна новыя батфорты,
Мазуркі вычурныя «па».

# Эцюд

Да Польшчы вабнае, напэўна,
Рукою лёгкаю падаць,
Ды беларускі сум напеўны
Вось што прымусіў узгадаць.

Малюе фарбамі прырода,
Кладзе на музыку пейзаж,
Адвеку прадаўжэнню роду
Такі адпавядаў віраж:

Яна і ён. І дудкі гукі
Ў палон уразлівы бяруць,
І цнотай выверany рукі
Таемным шоргатам плывуць.

Як пастаральным фа мажорам
Спявае статак да начы!
Трава, прымятая узорам,
Аб таямніцы той маўчы.

## *Накцюрн*

Соль-дыез застыў слязою...
Па-над чырванню касцёла
У аблоках бірузою
Моўчкі мроілі анёлы.

Так лагодна, так рупліва
Поўня сон мой прывячала.
Нечакана і пужліва
Песня ночы загучала.

Срэбным вэлюмам пяшчоты
Тая песня спавівала,
Ды нядоля адзіноты
Ўсё адчаем абдымала.

Над Утратай хваляй гукі
Разліваюцца ў спакоі.
Толькі душы, толькі рукі
За няўцешнаю смугою.

Мы згубілі свае скарбы.
....Поўня скрушная маўчала.
Ранак сцёр начныя фарбы —
Толькі музыка гучала.

# *Вальс*

Раз-два-тры, раз-два-тры, раз-два-тры,
раз...
Кружыць і кружыць шапэнаўскі вальс.
— З кім гэта ён?
— Ах, з якой маладой!..
Думкі у вечнасць ляцяць чарадой.

Зала агнямі уся зіхаціць.
— Ах, як сукенка на ёй шамаціць!..
— На заручоным пярсцёнку брыльянт...
— Вы незнаёмы?
— А хто ж гэты франт?

Такты адлічвае сцёрты паркет,
Сэрца з грудзей... ды адно — этыкет.
Лёсам шчаслівы падораны шанс,
Лёгкім жаданнем плыве рэверанс.

# Балада

Падзелы Рэчы Паспалітай
Крывёю акрапляюць снег.
Сігнал пабудкі іх паклікаў,
Ды толькі спыняць гэты бег.

Чаму змарнелае сутонне
Так злосна позіркі кладзе?
Ужо рыхтуецца супоня —
Напэўна, быць якой бядзе.

Бяда, бяда у Беларусі,
Бяда у Польшчы, у Літве.
У вырай зладзіліся гусі,
А тут бяда, і нават дзве.

Глядзіш, і трэцяя нягода
Студзёным ветрам апякла.
У полі выла непагода,
Як кроў людская пацякла.

...Тадэвуш родам з Беларусі,
Адкуль і я, адкуль і ты.
Ды толькі сум мяне прымусіў
Прыйсці у горкі час сюды.

Агінскі тут алеяй крочыў,
Касцюшку-сябра сустракаў.
Што лёс няўмольны ім прарочыў?
Што ён героям прадракаў?

За незалежнасць і свабоду
Сцягі Касцюшка уздымаў,
І падымаліся народы,
І кожны меч ў руках трымаў —

І беларусы, і ліцвіны,
І Польшчы верныя сыны,
За гонар роднае краіны
На смерць гатовыя яны.

Як ні змагаліся за волю,
Куды супроць цароў папрэш?
Абралі зноў ярмо нядолі,
Дык гні спіну, пакуль і гнеш.

Варожы сілы сёння ў згодзе,
Табе — зямля, і мне — зямля.
Калі хто думаў аб народзе?
Аб тым, хто прагне з мазаля?

Дый слова гэткае ж узялі —
Грабеж падзелам наракли.
Матулю-мову адабралі
І раскідалі па зямлі.

Яна і сёння чужаніцай,
Ды з-пад зямлі струменьчык б'е.
І хто адведаў той вадзіцы,
Вадзіцу гэту ўжо і п'е.

# Прэлюдыя № 4 «Ля магілы»

Я перад вечнасцю нямой,
Як перад споведдзю святой...
Яна вачніцамі пустымі
Мяне з’ядае, муліць, стыне.
Мізэрнасць — я, адной пясчынкай
Злячу ў Сусвет, а тут катрынкай
Пакорна трохі пагалосяць
І аднясуць, куды адносяць,
Калі адмерана струна —
Туды дарога ўсім адна.
...Я перад вечнасцю нямой,
Бясконцай, велічнай, пустой...

# Саната сі-бемоль мінор. Пахавальны марш

У беспрытульнасці змяркання,
Халодным сцюжам узамен
Сваім адхуквае дыханнем
І зноў вяртаецца Шапэн.

Пасаж узнёсся феерверкам,
Аж дыхаць боязна ураз...
І адбягае паняверка
Каторы раз, каторы раз.

У гэтых гуках смак ажынаў,
Што у дзяцінстве пан збіраў.
Цяпер далёка на чужыне
Ён неўзаметку паміраў.

Душа у роспачы блукала,
Шукала ў цемрадзі святла,
Яна й кахаць — не дакахала,
І дацвісці — не дацвіла...

А смерць з ухмылкай паглядае —
І вось знясілены, адзін,
Шапэн нясцерпна так рыдае,
І я рыдаю разам з ім.

# Ронда

О, колькі болю, колькі болю
У гэтай музыцы Шапэна,
І рвецца як душа на волю
За межы ронда і рэфрэна!

Куды мне кінуцца ад плачу,
Дзе для жыцця пазычыць сілы?
Ужо цяпер не перайначу
Я тую сцежку да магілы.

Бурштынам застываюць слёзы
На гуках ронда і рэфрэна.
Ты, як сцяблінaчка мімозы,
Душа самотная Шапэна.

А вашых вуснаў асалода
Прапахла водарам гаркавым,
І ўжо ні гукаў, ні мелодый,
І вы мне болей не цікавы.

Ды чорны фрак, Шапэн, надзеньце,
Ваш выхад зноў, маэстра «Дольчэ»!
Не дасць Вам — ведаю — памерці
Глыток паветра з роднай Польшчы.

# Прынашэнне Шапэну

Не, ты не Польшчы сын,
Не пасынак Парыжа —
Пасланец Бога ты з сусветаў невядомых.
Вунь, бачыце малечу каля дома
У куртачцы кароценечкай рыжай?
Ён пільна ўдалячынь глядзіць.
Маўчыць.
Як быццам ведае бясконцасці сакрэты...
Мы ўсе яго пяшчотаю сагрэты.
Прарок. Алхімік. Воін свету.
Божы сын.
Такіх сыноў у Бога небагата,
Душа якіх пакутамі распята.
Велікадушны, велічны Шапэн!
За тое, што сваёю вышынёю
Мне замінаеш ачарствець душою,
Дазволь мне прад табою на калені —
Неўтаймаваны, бессмяротны геній!

# *Імя твайго не назаву*

Трывожна плача фартэп’яна
Прарочай песняй уначы.
Якое дзіўнае «піяна»,
Як дзіўна мы з табой маўчым.

Можа, яшчэ не разумеем,
Што адбываецца між нас.
Мы размаўляем, як умеем,
Пра ксілафон і кантрабас.

Выразным жэстам дырыжора
Ты узрываеш цішыню,
У самым велічным мажоры
Мы спасцігаем вышыню.

Ад прыгажосці паміраем,
Яе згубіць баімся мы.
Жыццё здаецца нейкім раем
Нам напярэдадні зімы.

Спасцігаю цябе. Прычашчаюся
Да святых глыбінь і высноваў,
Бы спачатку я нараджаюся —
Пражываю жыццё нанова.

Да жывой душы дакранаюся
Лёгкім шэптам, чароўным словам,
Ад пяшчотнасці раствараюся
У пакорнасці адмысловай.

Адкрываю, люблю бясконца,
Па крупінках цябе збіраю.
Нас адно на дваіх сонца
Вандраваць з сабой забірае.

## *Ты снішся мне*

Ты снішся мне...
Навошта абуджаць трывогу?
Напэўна, дзякуючы Богу
Нас лёс з табою разлучыў.
Ты снішся мне... І ноччу
За мною пільна сочаць вочы.
Хто ты? Адкуль? З якога цуду
Твой лік з'яўляецца усюды?
Ён лашчыць думкі, розум, вочы.
Што ад мяне ізноў ты хочаш?
Ты снішся мне... Нябёсам
Насустрач прывідным бягу.
Без гэтых сноў, без гэтых вёснаў
Ужо, магчыма, не змагу.

# *Пралескі*

*М. Б.*

Калыхалі душу блакітам,
Чысцінёй цалавалі вусны
Кветкі крохкія пад ракітай,
Як таемнай любві спакусы.

Дзе той вечар, дзе бераг рэчкі?
Засціць вочы сівой смугою...
Усе кепікі, чуткі, спрэчкі
Змыла леташняю вадою.

Што згубіла — таго не вернеш,
За абрывам — яшчэ абрыў.
Памяць моўчкі складае вершы
Аб пралесках, што ты дарыў.

# Шэрае

Намалюю я твой партрэт —
Будзе ў ім толькі шэры колер,
Як той дах і той змрочны склеп,
Як кастрычніцкі гай і поле.

Як ад плесні сшарэлы хлеб,
Як ад пылу трава улетку,
Як той брудны зімовы снег,
Як стаптаная кімсьці кветка.

Быў той час і з пакут, і з бед,
Мне б туды не вяртацца ніколі...
Намалюю я твой партрэт —
Будзе ў ім толькі шэры колер.

# *Верш на «н»*

Не зберог ад бяды і болю,
На душы адзін неспакой.
Ну і даў жа Божачка долю,
Не жадаю нікому такой.
Не ў тваім я палоне, любы,
Не твая нявольніца я.
Не хачу, але шэпчуць губы :
«Не твая, не твая, не твая...»

> Пагавары са мной пра восень,
> Пра лістапад, пра халады.
>
> *Алесь Жыгуноў*

Пагавары са мной пра восень
І пра зіму пагавары.
Табе ужо за сорак восем,
І мне ужо за сорак тры.

Пагавары са мною шчыра
Пра халады, пра лістапад.
Як адлятае птушак вырай,
Калі ён вернецца назад.

Пагляд твой сумны. І няёмка
Сябе адчую пакрысе.
Хто для цябе я? — Незнаёмка.
Амаль такая, як усе.

Замілаванне ад размовы,
На жаль, прымроенае мной.
Калі пашчасціць — вершам новым
Узыдзе заўтра ранак мой.

# *Пад жнівеньскім небам*

Зорным бляскам вочы.
Дым ад цыгарэты.
Пах таемнай ночы
Шэптамі сагрэты.

Мой прыгожы, дужы,
На крыжы распяты.
Бачыш, я за мужам,
Ды і ты жанаты.

*В. К.*

Калі аднойчы цябе не стане,
Душа мая,
Затушыць вечар тваё світанне —
Дзе буду я?
Ці буду поўняй над лесам срэбным
Я праплываць?
А мо салоўкай у гаі вербным
Табе спяваць?
Пакінеш мудрасць мне у набытак
Апошні раз...
Усё змяшаў і пераблытаў
Наш лёс і час.

Ні радасці, ні смутку — беспрасветна
Адны турботы стужкай дзень за днём.
Я стала абыякавай да свету
І не жартую з бліскаўкай-агнём.

Ужо душу не цешыць цёплы вецер,
І тонуць думкі ў леташняй журбе.
Няма каго любіць мне ў гэтым свеце...
Давай, нарэшце, палюблю цябе.

# Восеньская элегія

*У. А.*

Нязгаслы свет вачэй тваіх
У восеньскім паглядзе...
І зноўку бачу я дваіх
У белым-белым садзе.

З трывожных і няўдалых слоў
Раптоўныя расстанні,
Спадае вэлюм ціхіх сноў
На сцішаным світанні.

Дажджы — к дажджам, журба — к журбе,
Я з чарацінкай мрою,
Вяшчугай-птушкай да цябе —
Зацішша нада мною.

Чужую сцежку замяце
Самотным лісцем вецер
І неспадзеўкі прывядзе
Найлепшую у свеце.

Спаліла восень свой раманс
Нясцерпнымі слязамі,
«Мне часта не хапае Вас», —
Успомню маразамі.

І поціск Вашае рукі,
І Вашае дыханне.
...Ляцелі небам жаўрукі
Аднойчы ў сінім ранні.

Агнём халодным верасы
Зноў лашчацца журбою,
І стынуць ціхія лясы
У хмарах над табою.

І зноў святло вачэй тваіх
У восеньскім паглядзе...
Дарэмна бачу я дваіх
У белым-белым садзе.

Я сягоння хачу разам з Вамі
Памаўчаць, памаўчаць, памаўчаць...
Несуцешнай нядолі слязамі
Затуліць. І тугою абняць.

У вачах Вашых — зорак дыханне,
Што таемнай сінечай гараць.
Зноўку будзем маўчаць пра каханне,
Зноўку будзем мы моўчкі кахаць.

Распяты дзень. Распятыя нябёсы.
Нямы дакор. Нямая далячынь.
Каму, нябёсы, скардзіцца на лёсы,
На вірны шлях плывучых аблачын?

Так дзень за днём. І ночы за начамі.
Цяпер для крыўд, быццам, няма прычын.
Ды ўжо чужыя з нашага адчаю...
Распяты дзень. І мы з табой маўчым.

Яшчэ хачу любві ўзнёслай,
Яшчэ хачу — з плячэй цяжар,
Каб многа зім і многа вёснаў
Душу распальваў бы пажар.

Хачу аднойчы знеслаўлення
Няспыннай, марнай сумятні...
Табе маё благаслаўленне
На ранне, вечар, ноч і дні.

Вось і ўсё. Ні ласкі, ні пяшчоты,
Адзіны боль і анічога болей.
Гарчыць палын у сэрцы, як ніколі,
І не магу змірыцца з адзінотай.

Мне б да душы каханай прытуліцца,
Апошні раз крануць яе рукою.
...Крыўдуе нават неба нада мною,
Мо толькі з часам рана загаіцца.

Прабач, каханы, мне мае сумненні,
Прабач любові дзіўнае палёт.
Я зведала яскравы свой узлёт
І зведала гаротнае падзенне.

# Палюбоўнік

Гавары мне пяшчотныя словы,
Раз ты круціш са мною раман,
Палюбоўнік ты мой адмысловы,
Летуценняў і думак падман.

Не абрушвай гаркавыя крыўды
На маю паланянку-душу,
Каб са мною суцешаным быў ты,
Я у лёсу дазволу прашу.

А цябе прадказаць немагчыма —
То анёл, то вяртлявы, як вуж.
Ты наяве мой першы мужчына —
Мой жаніх, палюбоўнік і муж.

Яшчэ блукалі недзе нашы цені,
Калі набатам колакал стагнаў.
Перад табою стану на калені,
Каб больш нікога ты не праклінаў.

На скрыжаванні позняга спаткання
Пагаварыць апошні раз мы выйдзем.
Спасцігнуць як адвечнае пытанне:
«Кахаем сёння — заўтра ненавідзім?»

*Г. С.*

Я помню вечар той апошні
І пацалункаў прагных жар.
Плыў асцярожна і трывожна
Над намі поўні жоўты шар.

Твой позірк вечна ганарлівы
І фраз напружаных эфект,
Маіх вачэй пагляд цнатлівы
Згадай, здаволены эстэт.

Даруй мне нораў закаваны,
Знямелы, стрыманы язык.
Без бою у палон каханак,
Відаць, даўно ты браць прывык.

# Чаму?

*Г. С.*

Ну што ж, калі злятаі словы,
Як груды смецця, у сусвет...
Ты мне здаваўся адмысловым
Адзін на цэлы белы свет.

А дні ляцелі чарадою.
Ты іншым стаў. І ўжо не так
Лічыў гадзіннік нада мною:
«Цік-так, цік-так, цік-так, цік-так»...

Люстэрка хмурыла мне бровы,
Успамінала твой партрэт.
Чаму здаваўся адмысловым
Ты мне на цэлы белы свет?

Закрычала восень крыкам жураўліным,
Спавіла тугою нівы і лясы.
Недзе у балоце спеюць журавіны,
Полымем ружовым стынуць верасы.

Адгарэлі фарбы нашага кахання,
Патануў у здрадзе легкакрылы май.
Параслі травою сцежкі да вяртання,
І цяпер, мой любы, вецер абдымай.

Я ведаю. Сумую. Чую — ёсць
Ты недзе там... Няхай сабе далёка.
Душы тваёй святая прыгажосць
Над вышынёй птушынага палёту.

Я ведаю. Заўжды мяне кахаў,
Мы не маглі з табою не сустрэцца.
Адзіны лёс нарэшце напаткаў,
Каб унісонам пульсавалі сэрцы.

Як светам чыстым асвятляе Божа
Любові храм, узведзены у душах!
Стамлёныя шляхамі бездарожжаў,
Ужо саюз наш моцны не парушым.

# Вясной

Не плач, яшчэ недакахалі.
На выспах леташняй зімы
Не мы заранак сустракалі,
І вечар вабілі не мы.

Не ты дрыготкія калені
Самазабыўна абдымаў,
Сутоння шэрага стамленне
Не ты за скруху прынімаў.

Не ты, не ты, мабыць, наблытаў
Вятруга-баечнік пра нас,
Бо ўжо нясе кахання плытам,
Нясе, як самы першы раз.

# *Вясна*

Зноўку вясна зазваніла
Звонам на ўсе галасы.
Пэндзалем пазалаціла
Вербам маім валасы.

Сцежачкай крочу лясною,
Лёсу б спазнаць таямніцы.
Ты падары мне вясною
Кветачкі-завушніцы.

Я хачу у той горад, дзе ты
Кожны ранак па вуліцах крочыш.
Замятаюць тапол і сляды...
Што, вясна, мне ізноў напрарочыш?

Я хачу у той горад, які
Цябе бачыць і летам, і ўзімку.
Хто ж між намі магутны такі?
Хто ж сціскае цябе у абдымках?

Не пускаеш, не хочаш пусціць
У прытулак, дзе шчасце віруе.
Да мяне толькі вецер ляціць —
Хай на пару са мной і шчыруе.

Я прарастаю у табе,
Як прарастае зерне ў глебе.
Ты — сонца для мяне і неба.
Я прарастаю у табе.

Ужо у жылах кроў твая
Пульсуе вострым метрарытмам,
Друкуе на паперы рыфмы
Курсіўным шрыфтам кроў твая.

На дзіва злоснай варажбе
Не зжохну я нудой-іржою,
Бо каранямі і душою
Я урастаю у цябе.

# Табой паміраю

Табе не патрэбна мая любоў,
Ні жарсці мае, ні ахвяры.
А вобраз любімы і родны ізноў
Жыве неадступна ў марах.

Злуюся дарэмна, бо выйсця няма —
Няма прадаўжэння сюжэту.
Прыдумала, можа, цябе я сама,
Бо ўсё уласціва паэту.

Ты — думак пяшчотных маіх уладар,
Бясконцасць любові... І бачу,
Што Богам завешчаны мне ты ў дар...
А сэрца заходзіцца плачам.

Нябесных адступнікаў цёмная раць
Мяне ў палон забірае.
Я ведаю — нельга табой паміраць,
А ўсё ж такі зноў паміраю.

# *Нейтральная зона*

Ты у маім дыяпазоне
Гучыш зашмат ужо гадоў,
І стрэчам на нейтральнай зоне
Ізноў аддаць сябе гатоў.

Саміх сябе перамаглі,
Пераадолелі лавіну.
Жывём не з тымі, з кім маглі б,
І не, тым болей, з кім павінны.

Не ведаю, якіх законаў
Пакорна слухае быццё.
У стрэчах на нейтральнай зоне
Сыходзіць хуткае жыццё.

# Летуценне

Я не ведаю, ёсць ты ці не
Ў цэлым свеце адзіны і любы.
Намалюю цябе па вясне,
Мо на шчасце, а можа, на згубу.

Я не ведаю, ёсць ты ці не,
Клапатлівы, спагадлівы, шчыры...
Ды вяртайся усё ж да мяне,
Як вясною вяртаецца вырай.

# *Пра цябе*

Я чакаю твайго званка
Сярод цішыні пакоя,
Сцены якога таксама чакаюць.
З усмешкаю на лагодным твары
Я бачу цябе ў кожным апошнім промні,
І жоўтая восень спявае мне свае песні,
У якіх ты.

Я твой спакой нічым не патрывожу,
Ты не хвалюйся, мілы мой, дарма.
Тваім анёлам годным і прыгожым,
Напэўна, хутка стану я сама.

Заўсёды побач — толькі не ўбачыш
Ты незямную гэту мілату.
Не разбяру — смяешся ты ці плачаш,
Калі міжвольна міма я іду.

Па Вашых сумных, сцішаных вачах
Скрозь і туман, і восеньскую просінь
Я прачытала — сніцца па начах
Яна Вам, менавіта ў гэту восень.

Прыход яе у Вашае жытло —
Бы свечкі свет, бы znічкі азарэнне!
Гэтых вачэй смарагдавых святло
Заўжды жыло у Вашым вымярэнні.

Кранае ціха моцную далонь
Рукі танклявай лёгкае дрыжанне...
Змагла ж так восень распаліць агонь!
Перахваціць заўсёднае дыханне!

Пераіграйце восеньскім дажджом
Дывертысменты скончанага лета,
Прыкрыйце плечы ёй сваім плашчом,
Астатняе пакіньце для паэта.

Бо раніцою з надыходам дня
Знікае здань... Будзённасць тут віруе.
А разам з ім — і тая дабрыня,
Што у вачах абранніцы пануе.

Магла б цябе яшчэ кахаць
За словы, сказаныя ўпотай,
Твайго мабільнага дыханне,
За позірк, кінуты наўзбоч...
Калі б вада не так сцюдзёна,
У нашым водары кахання
Магла б цябе яшчэ, мой любы,
Азёрнай хваляй калыхаць.

Магла б цябе загаварыць,
Расцалаваць на згубу вусны,
Памерці ад тваёй пяшчоты,
Вядзьмаркай на цябе глядзець,
Мурогам выслаць твае сцежкі,
Зняволіць жартам твае думкі,
Распальваць сабою сэрца
І зелля моцнага зварыць...

Вось толькі рукі аслабелі —
Не могуць моцна абдымаць.
Ды пальцы на руках знямелі,
Далоні каб твае сціскаць.
А вусны не занадта гожы,
Каб табе досвіткам шаптаць,
І ў соты раз душа не можа
Самааддана так кахаць.

# Адзінота

Я захварэла Вамі,
Вы захварэлі мной.
Не ведаем мы самі,
Як справіцца з бядой.

Перакладу на ноты
Самотны свой расказ.
Напэўна, адзінота
Так парадніла нас.

На тэлефон з надзеяй
Гляджу я дзень за днём.
І раяць дабрадзеі:
«Ты не жартуй з агнём».

Ды голасу дрыжанне
Вярэдзіць мне душу.
Я не прашу прызнання,
Я памаўчаць прашу.

Зноў да цябе прыходжу,
Здымаю паліто.
Пра наш раман прыгожы
Не ведае ніхто.

# Паэту

Калі душа спаткае час,
Дзе шмат тугі незразумелай,
Тады успомню я пра Вас,
Каго кахала, як умела.

Пасланнік музы самы першы,
На жаль, мне крыху недапеў...
Ты расказаў усё пра вершы,
А... пра каханне не паспеў.

Вось, бачыце, я музай Вашай стала.
У гэту познюю асеннюю пару,
Напэўна, Вам натхнення не хапала,
Давайце, я яго Вам падару.

Ва ўсіх самотных Вашых партытурах
Матывы шчасця незнарок злаўлю.
Вы чуеце? Пяюць клавіятуры
Аб тым, як моцна, моцна Вас люблю.

# Сустрэча

Праз столькі год сустрэліся з табою.
Пачырванеўшы, ціха ты павёў:
«Якой была яшчэ ты маладою,
Калі нас лёс бязлітасны развёў».

Што мне сказаць у гэтую хвіліну?
Мой голас нібы нехта абарваў:
«Ты помніш, як сядзелі пад ялінай
І ты мяне дыханнем саграваў?

Бясспрэчна, той дзяўчынкі летуценнай
Ужо патух бурштынавы пагляд,
На твар яе выразныя адцэнні
Даўно наклаў расчараванняў яд.

Ёй у жыцці паветра не хапала,
І не хапала часта ёй цяпла.
Дык ведай жа — заўжды цябе кахала,
І нават калі замужам была».

*В. К.*

Ты кранаеш мяне,
Як анёлы кранаюцца крыламі,
Калі моўчкі прыходзяць у ноч да мяне
неўпрыкмет.
Я не веру мане,
Што жадае падужацца сіламі
І сабой засланіць, затуманіць душы тваёй
свет.

Ты зусім незямны.
Ты прыходзіш з сінеючай далечы.
І мігціш светлячком над самотаю
зманлівых сноў.
Аб табе мае сны,
З іх з трывогаю паглядаючы,
Ты маўчыш...
Каб, напэўна, аднойчы сустрэцца наноў.

# Вершы-прасвятленні

## № 1

Як часта я жыла дыханнем
Спаткання позняга з табой.
Я тым каханнем-калыханнем
Ужо не цешу ранак свой.

Я не у крыўдзе, не ў самоце,
Усё маё — яно са мной.
Даверу толькі шчырай ноце
Спяваць вяшчугаю вясной.

## № 2

*Б. Г.*

А хто ты мне? Ды усяго — знаёмы.
Напэўна, там — у дальняй старане —
Ты й, можа, чалавек вядомы,
Ды толькі гэта ўжо не трэба мне.

Відаць, характар у цябе не з лёгкіх,
Хаця, прызнацца, думала інакш.
Паздаравела — дыхаю з палёгкай
І не хварэю болей без віна.

## № 3

У соты раз сцярплю абразу
І ад цябе, і ад людзей.
Цябе абразіць жа ні разу
Я не спакушуся нідзе.

Ні варажыць, ні спадзявацца
На шчасны лёс я не хачу.
Мне назалела распінацца —
Цяпер зашмат усё маўчу.

## № 4

Такая у жыцці імпрэза,
Такі вось у мяне сюжэт —
Не вызывае інтарэсу
Твой рамантычны сілуэт.

На тваё светаўспрыманне
Такі вось у мяне прысуд —
Не узнікае больш жадання
Хадзіць з табою мне у блуд.

## № 5

*В. К.*

Як доўга я была ахвярай
Твайго нямога хараства.
Як доўга доўжыліся мары,
Ды працвярэжвае жарства.

Калі ж і ты недасканалы —
Душы прытулак не збярог,
Раптоўна робіш вывад сталы,
Што дасканалы толькі БОГ.

Так страшна думаць пра цябе,
І прызнавацца, і маліцца.
У гэтай вечнай барацьбе
Я зноў баюся памыліцца.

Я думала — ты мне збаўленне
Ад здрад, праклёнаў, сумятні,
Што мне дашлеш ты блаславенне
На ўсе адмераныя дні.

Не адракаюся. О, не!
Мае грахі усе са мною.
Салодка думаць пра цябе...
І, як тады, аб шчасці мрою.

# Маленькі прынц

Мне выбар паў —
з табой на Млечны Шлях.
І я пайшла. Па ззянні змоўклых зорак
Блукалі мы. Маршчыністы манах
Святым кадзілам маляваў узоры.

Мне чутны гукі... Вечнасці закон
Тут на зямлі амаль нам не знаёмы.
Плачу падаткі і аброк, а ён
Няўмольным жэстам б’е па метраноме.

Табе лягчэй. На Млечным ты, як свой,
Халодных зорак ведаеш сакрэты.
Дык, можа, скажаш, любы дружа мой,
На тым ты свеце ці на свеце гэтым?

Я гавару табе: «Бывай...»
Ну так... на выпадак на ўсякі.
Ты пра мяне не забывай,
Адданей нават я сабакі.

Ад смутку радасці шукаць
Мне не прыходзіцца ў адчаі,
І буду ціха паміраць
Пад стогны белых-белых чаек.

У час апошні прызаву
Пагляд твой сумны, бездакорны.
І на судзе, мой непакорны,
Імя твайго не назаву.

# На возеры Белым

І ціха стала ў цішы белай,
Калі уранку неўпрыкмет
Вось тут, на возеры на Белым,
З’явіўся ты на гэты свет.

Няспешнай хваляй калыхала
Цябе азёрная вада.
У жмуркі сонейка гуляла,
Каб брала моц твая хада.

А ты хаваў яго на ночку
У залатыя чараты...
Цяпер куды ні глянуць вочы —
Усюды ты, усюды ты.

Блакітам лёгкай аблачынкі
Плывеш няспынна нада мной.
Пагоркі, раўчукі, лагчынкі —
Як могуць помняць вобраз твой.

А я русалкаю знямелай
Зашмат начэй, зашмат і дзён
Вось тут, на возеры на Белым,
Цябе чакаю, маладзён.

# Мінскі сшытак

## У Мінску (2004)

Сустрэла зіма дажджамі
(На вуліцы снежань быў),
Вясновымі капяжамі,
Як поезд у Мінск прыбыў.

І людзі беглі пад дахі
Трамваяў, дамоў, метро,
Трывожылі ежы пахі
З адчыненага бістро.

Гук скрыпкі аднекуль срэбны
Спяваў то гэтак, то так —
Нікому не быў патрэбны
У пераходзе жабрак.

Прыступкі метро ў брудзе,
З сумой без ног чалавек.
Спяшаліся, беглі людзі.
Ішоў дваццаць першы век.

# *Музыка*

Зноў прыходзіш, як дыханне,
Не знянацку, не знячэўку.
Ціхай ноччу, ясным раннем
Ты са мною неадчэпна.

І мілуеш лёгкім пухам,
Ні аб чым мяне не просіш.
Белым светам, светлым духам
Да вяршынь душу узносіш.

Як спасцігнуць подых гэты,
Той, што рэхам адзавецца?
Як спасцігнуць фарбы свету,
Свет, што музыкай завецца?

# На выстаўцы «З нясвіжскіх збораў Радзівілаў»

З вякоў сівых і далёкіх,
Як быццам устаўшы з магілы,
Глядзелі са сцен высокіх
Княгіні, князі Радзівілы.

Яны, падціснуўшы губы,
Маўчалі доўга і млосна.
І воклік дазорца грубы
Тут быў амаль невыносны.

Князёўна ў музеі. Чары
Яе, як трывожны сон.
Шляхцянка, каханне, мары
Бяруць пакрысе ў палон.

Убор з самога Парыжа —
Не дыхаю, не міргаю.
Чароўная пані з Нясвіжа,
Напэўна, Вас я кахаю.

# Беларускі балет

Калі б маглі ўсе людзі свету
Аднойчы паглядзець балет —
Яны б заўважылі, што гэта
Цудоўны, гожы, дзіўны свет!

Штуршок — і стукаюць пуанты.
Ляцяць, як быццам пух з нябёс,
Танцоры. Граюць музыканты
Так, што расчулішся да слёз.

Жывуць мелодыі вякамі,
І вечна страсці тут кіпяць:
Ваюе рыцар з ветракамі,
Зласліўцы-геніі не спяць.

Мне так шкада цябе, мой дружа,
Што ты на дзейства не папаў,
Што у жыцці ні разу, можа,
Ты на калені не прыпаў.

Высакароднае аблічча
Штодня губляем назаўжды
І грубіянім маляўніча
Сягоння я, а заўтра ты.

Калі б маглі ўсе людзі свету
Аднойчы ўзяць набыць білет
На гэта дзіва, цуда гэта,
Што называецца балет!

# На канцэрце Дзяніса Мацуева

І зноўку ляцяць над горадам
Імгненні, думкі, жаданні.
І нават нябёсы гордыя
Суцішыліся ў чаканні.

Дзівосамі карагодзілі
І ззялі агнём заранкі,
Як дойліды, рукі ўзводзілі
Будынкі, аркады, замкі.

Вадой святой наталяючы
Душу і розум замнога,
Юнак-музыка, іграючы,
Услаўляе сябе ды Бога.

# Увасабленні

## Старасць

Вецер.
Дождж.
Слота.
Ішоў чалавек па вуліцы.
Наўздагон за ім старасць, туга, адзінота...
А тут яшчэ вецер...
Дождж...
Слота...

## Шчасце

Бачу маці ў сініх вёснах
З валасамі колеру сонца.
А блакітныя вочы смяюцца —
І жыццё мне здаецца шчасцем.

## Цішыня

Вечар здранцвелы.
Ціха ў хаце.
Сэрца ад скрухі знямела.
Белыя сцены.
Белая маці.
Снег за акном белы-белы.

## Маўчанне – золата

Шмат парадоксаў на гэтым свеце,
(Годнасць тваю не хачу прымяншаць), —
Кідаюць словы дурні на вецер.
А вось разумныя больш маўчаць.

## Мы

Сумятня сумятні
Дзень пры дні,
Дзень пры дні.
Сляпыя, глухія, нямыя,
Убогія і дурныя —
Гэта ўсё мы,
Гэта ўсё мы.

## Несупадanne

Мяла завіруха, і вецер дурэў,
Калі на сцяжынцы мяне ты сустрэў.
Ад той нечаканасці ледзь не знямеў,
Вось толькі, што я гэта, — не зразумеў.

## Ніколі не позна

Гляджу на брудную варону.
Аказваецца, і ў яе ёсць крылы.

## Двудушша

Асцерагайся пахвальбы,
Што саладзейшая за мёд,
Бо можа стацца — заўтра тыя вусны
Будуць джаліць, як гадзюка,
І ганьбаваць цябе.
Не вер хвальбе —
Яна хутчэй падмане.

## Усведамленне

Калі мяне ты крыўдзіў —
Млела неба.
Яно слязамі залівала шлях,
Які нас вёў адное да аднога.
Дзякуй Богу —
Так было патрэбна
Мне і небу.

## З Залюстрэчча

Я памерла. Мяне няма.
І ніколі ўжо не будзе.
Насмяялася ж я сама.
Аба мне вы паплачце, людзі.

# Два вершы для маленькага сына

*Ілью Бондару*

## Калыханка

Веяў ветрык-ветравей,
А затым спыніўся.
Цінькаў шэры верабей,
Ды і той стаміўся.

Ноч прыйшла у госцейкі,
Запаліла зорачкі.
Паснулі да досвітку
Ў гушчары вавёрачкі.

Залюляю хлопчыка
З вочкамі-валошкамі.
Будзе ясны месячык
Пазіраць на хлопчыка.

У лагчыне у лясной
На старых арэлях
Забаўляецца зімой
Белая завея.

Люлі-люлі-люлі,
Спяць усе казулі,
А зіма-завея
Вее, вее, вее.

Яна песеньку пяе
Пра цябе і пра мяне,
На дудачцы грае,
Дзіцятка люляе.

Спі, мой хлопчык гаманкі,
Як ветрык-гарэза,
Праплываюць зорачкі
Ў залатой запрэжцы.

Люлі-люлі-люлі,
Дзеткі ўсе заснулі,
Ды зіма-завея
Вее, вее, вее.

# Навагодняя ноч

Ад водбліскаў, ад водгукаў, ад выклікаў
той бессані
Пакрыўдзіўся, спалохаўся
бадзяга-ветравей.
Адчужаны, засмучаны, над прорвай і над
безданню
Ён скардзіўся і скардзіўся —
гарэза-дабрадзей.

Завея забаўлялася з тужліваю катрынкаю,
Запрэжкаю імчалася кудысьці у абшар.
Ўпрыгожвала, абвязвала карункавай
хусцінкаю
Палі, лугі маўклівыя і ўвесь лясны
гушчар.

Гуляла так паблажліва зімовая
свавольніца,
Каралі серабронья раскідвала ў лясах.
Расказвала прывабліва мне
байкі-забабонніцы,
Пакінула падманліва след белы ў валасах.

Лагчыны закалыхвала, какетнічала
з месяцам,
Вадзіла са сняжынкамі гуллівы карагод.
Ды потайкам, у прыцемках, сцяжынкаю
замеценай
На санках пазалочаных прывезла
Новы год!

# *Змест*

**Некалькі вечароў з Шапэнам**



**Імя твайго не назаву**

### Мінскі сшытак



### Увасабленні



### Два вершы для маленькага сына

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Галавач** (Бондар) Наталля Эдуардаўна

**На возеры Белым**

*Вершы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Спрытніч*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 10.11.2011.
Фармат 75x90 $^{1}/_{32}$.
Друк на рызографе. Папера афсетная.
Ум. друк. арк. 4,22. Ул.-выд. арк. 2,17.
Наклад 150 асобнікаў. Зак. 787.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія ЛП № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.